Пачынаючы з траўня 2004 года Беларусь мяжуе з трыма краінамі-сябрамі Еўрапейскага Саюза. У выніку правядзення нацыянальных рэферэндумаў жыхары Літвы, Латвіі і Польшчы прагаласавалі за ўступленне ў ЕС.

Гэтая падзея стала вельмі важнай не толькі для народаў суседніх нам краін, але і для беларусаў. Перад намі фактычна паўсталі пытанні: куды мы ідзем, з якімі краінамі і народамі хочам сябраваць і інтэгравацца? Адначасова з'явілася неабходнасць асэнсаваць нашыя перспектывы ў бурліва развіваючымся еўрапейскім рэгіёне.

Дык што гэта такое: Еўрапейскі Саюз? Калі, чаму і навошта ён стварыўся? Якія перамены прынесла нам суседства з краінамі Аб'яднанай Еўропы?

Спробу адказаць на гэтыя пытанні робяць аўтары брашуры, якую вы трымаеце ў руках.

# 1. Еўрапейскі Саюз і Беларусь

Пасля прызнання Еўрапейскім Саюзам незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе ў двухбаковых адносінах назіраўся ўстойлівы прагрэс. Аднак сітуацыя стала мяняцца да горшага неўзабаве пасля абрання Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам Беларусі. Хаця ў 1995 годзе былі праведзены перамовы па заключэнні двухбаковага Дагавора аб партнёрстве і супрацоўніцтве, гэты дакумент так і не набыў моц. У верасні 1997 года Саветам ЕС было прынята рашэнне аб немагчымасці падпісання з Беларуссю ні прамежкавага пагаднення, ні Дагавора аб партнёрстве і супрацоўніцтве ў сувязі з пагаршэннем сітуацыі.

Пачынаючы з 1996—1997 гадоў адносіны паміж ЕС і Беларуссю працягвалі пагаршацца ў выніку зробленых Лукашэнкам крокаў у напрамку аўтарытарызму. У 1996 годзе ў Беларусі быў праведзены канстытуцыйны рэферэндум, у выніку якога асноўная ўлада ў краіне засярodзілася ў руках прэзідэнта. Дэмакратычныя ўмовы былі парушаны, у прыватнасці, пры замене дэмакратычна абранага парламента Нацыянальным сходам з прызначанымі прэзідэнтам дэпутатамі. Апазіцыя і сродкі масавай інфармацыі падвяргаліся рэпрэсіям. Назіралася ўмяшальніцтва выканаўчай улады ў працэс прыняцця судовых рашэнняў.




Пасля знікненняў вядомых апазіцыянераў у 1999—2000 гадах, ЕС неаднаразова патрабаваў ад Беларусі прыняцця адпаведных мер для прыцягнення да судовай адказнасці асоб, вінаватых ва ўчыненні гэтых злачынстваў.

Прэзідэнцкія выбары ў верасні 2001 года, парламенцкія выбары восенню 2000 і 2004 гадоў, а таксама рэферэндум 2004 года былі прызнаны не адпавядаючымі міжнародным стандартам дэмакратычных выбараў. Адзначалася запалохванне і праслед прадстаўнікоў палітычных партый, незалежных СМІ і адукацыйных устаноў.



Шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства і гвалтоўныя дзеянні ўладаў у адносінах да сваіх апанентаў прывялі да непрызнання Еўрапейскім Саюзам таксама і вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, якія адбыліся ў сакавіку 2006 года. У якасці санкцыяў ЕС за-

**"ЕС падкрэслівае сваю гатоўнасць да паглыблення адносін з Беларуссю, у тым ліку і ў рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства, калі беларускія ўлады дакладна прадэманструюць жаданне і зацікаўленасць у тым, каб ісці курсам павагі да дэмакратычных каштоўнасцяў і вяршэнства права. ЕС будуць зроблены крокі, накіраваныя на тое, каб данесці да беларускага насельніцтва ідэю Еўрапейскай палітыкі добрасуседства і прадэманстраваць яе перавагі".**

бараніў шэрагу вышэйшых беларускіх чыноўнікаў уезд на сваю тэрыторыю.

Падобнае развіццё сітуацыі зрабіла немагчымым для Беларусі атрыманне выгод і пераваг у рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства, паколькі гэтая палітыка заснавана на прыхільнасці да агульных каштоўнасцяў, уключаючы дэмакратыю, вяршэнства закону, дэмакратычнае дзяржаўнае кіраванне і выкананне правоў чалавека, уключаючы і правы меншасцяў. ЕС працягвае выказваць гатоўнасць развіваць адносіны з Беларуссю, калі яна прадэманструе сваю прыхільнасць да гэтых каштоўнасцяў.

## 2. Еўрапейская палітыка добрасуседства і Беларусь

Еўрапейская палітыка добрасуседства, была ўпершыню сфармулявана Еўрапейскай камісіяй у Паведамленні аб пашыранай Еўропе ў сакавіку 2003 года, а потым дапоўнена яшчэ адным Паведамленнем у ліпені таго ж года. У ім была выкладзена канцэпцыя Праграмы добрасуседства, закладае аснову для цеснага супрацоўніцтва з краінамі-суседзямі пашыранага ЕС і, у прыватнасці, дае Беларусі магчымасць паляпшэння адносін з саюзам.

Напачатку Беларусь вітала канцэпцыю Еўрапейскай палітыкі добрасуседства і прапаноўвала канкрэтныя галіны супрацоўніцтва, але пры гэтым не адказвала на патрабаванні выканання асноўных дэмакратычных стандартаў. На жаль, антыдэмакратычны курс беларускіх уладаў і парушэнні правоў чалавека ў краіне не дазволілі развіць адносіны паміж ЕС і Беларуссю ў рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства. Тым не менш, ЕС пацвярджае сваю гатоўнасць да больш цесных стасункаў, у тым ліку і ў рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства, пры ўмове рэалізацыі Беларуссю фундаментальных рэформ.

13 верасня 2004 года Савет ЕС яшчэ раз выказаў "надзею, што Беларусь зойме належнае месца паміж дэмакратычных краін. У гэтым выпадку ЕС зможа прадоўжыць развіццё адносін з Беларуссю,

у тым ліку і ў рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства".

23 лістапада 2004 года Саветам ЕС (14724/04) было падкрэслена, што "Беларусь як непасрэдная суседка Еўрапейскага Саюза, мае магчымасць стаць актыўным партнёрам ЕС у рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства". Савет ЕС заклікаў прэзідэнта Лукашэнку і яго ўрад "змяніць палітыку і стаць на шлях фундаментальных дэмакратычных і эканамічных рэформ дзеля таго, каб наблізіць краіну да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў".

## 3. Трансмежавае супрацоўніцтва

Зараз у пamежжы з ЕС з удзелам Беларусі створана 4 еўрарэгіёны: "Буг", "Нёман", "Белавежская пушча" і "Азёрны край". Еўрарэгіён "Днепр" аб'ядноўвае Гомельскую вобласць і сумежныя вобласці Расіі і Украіны. Тым не менш, удзел Беларусі ў дзейнасці еўрарэгіёнаў мае вельмі абмежаваны характар. Гэтак, напрыклад, еўрарэгіён "Буг" фактычна ператварыўся ў двухбаковы польска-ўкраінскі праект, а ўдзел нашай краіны ў еўрарэгіёнах "Нёман" і "Азёрны край" ніколі не быў актыўным.



Геаграфічнае размяшчэнне еўрарэгіёнаў з удзелам Беларусі

У адрозненні ад Беларусі ўсе суседнія з ёй краіны далучыліся да Еўрапейскай рамачнай канвенцыі аб памежным супрацоўніцтве тэрытарыяльных супольнасцяў ці ўладаў. Аналагічная сітуацыя захоўваецца і з Еўрапейскай хартыяй мясцовага самакіравання Савета Еўропы 1985 года. Яна набыла моц для Украіны, Малдовы і Расіі ў 1998 г., Беларусь яе пакуль што не падпісала.

Наша краіна аб'ектыўна зацікаўленая ў развіцці ўсяго спектра трансмежавага супрацоўніцтва, аднак і ў гэтым выпадку развіццю перашкаджае звышцэнтралізацыя ўладных паўнамоцтваў.

# 4. Гандлёвыя адносіны ЕС—Беларусь

Пры адсутнасці Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве і Часовага пагаднення двухбаковы гандаль рэгулюецца палажэннямі аб рэжыме найбольшага спрыяння Пагаднення ад 1989 года паміж ЕС і былым Савецкім Саюзам. Беларусь таксама ўключана ў Генеральную сістэму прэферэнцыяў (ГСП).

**Гандаль ЕС—Беларусь у 2001—2005 гг. (у млн. еўра)**

| Год | Імпарт | Штогадовая дынаміка, у % | Доля ў сукупным імпарце ЕС | Экспарт | Штогадовая дынаміка, у % | Доля ў сукупным экспарце ЕС | Сальда | Імпарт+ Экспарт |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2001 | 1358 | | 0,14 | 2018 | | 0,23 | 660 | 3376 |
| 2002 | 1537 | 13,2 | 0,16 | 2086 | 3,4 | 0,23 | 550 | 3623 |
| 2003 | 1972 | 28,3 | 0,21 | 2211 | 6,0 | 0,25 | 239 | 4183 |
| 2004 | 2577 | 30,7 | 0,25 | 2636 | 19,2 | 0,27 | 58 | 5213 |
| 2005 | 3343 | 29,7 | 0,28 | 3220 | 22,2 | 0,30 | -124 | 6563 |
| 3 мес. 2005 | 796 | | 0,30 | 597 | | 0,26 | -199 | 1394 |
| 3 мес. 2006 | 989 | 24,2 | 0,30 | 838 | 40,3 | 0,31 | -151 | 1827 |
| Сярэдне-гадавы рост | | 25,3 | | | 12,4 | | | 18,1 |

(Крыніца: EUROSTAT (Comext Statistical Regime 4))

У жніўні 2005 года Савет ЕС ініцыяваў працэдуру прыпынення гандлёвых прэферэнцыяў для Беларусі ў сувязі з інфармацыяй пра парушэнне ў Беларусі правоў прафсаюзаў. Ужо ў верасні 2006 года ЕС зрабіў спробу адмяніць прэферэнцыі для Беларусі, аднак "супраць" прагаласавалі суседнія з Беларуссю краіны, якія ўваходзяць у Еўрасаюз. Калі адмена прэферэнцыяў усё ж адбудзецца, то наша краіна панясе страты ў 300 мільёнаў еўра штогод.

Для Беларусі ЕС з'яўляецца асноўным гандлёвым партнёрам

пасля Расіі. У 2005 годзе 34,5% беларускага экспарту ішло ў краіны ЕС (у Расію — 38%). У той жа час гандлёвыя патокі ЕС з Беларуссю нязначныя (0,3% аб'ёму гандлю ЕС). Відавочна, што калі Еўропа вырашыць увесці супраць Беларусі эканамічныя санкцыі, то гэта вельмі негатыўна адаб'ецца на беларускай эканоміцы, у той час як для ЕС страты будуць невялікія.

**Дапамога Беларусі з боку ЕС у 1991—2005 гг. (у млн. еўра)**

| | 1991 | 1992 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 | 2001 | 2002 | 2003 | 2004—2005 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нацыянальная праграма Tacis | 8,92 | 14,6 | 9 | 7 | 12 | 0 | 0 | 5 | 0 | 5 | 0 | 0 | 5 | 10 | 76,55 |
| Праграма Tacis па ядзернай бяспецы | 0,3 | 0 | 1,5 | 0 | 0,6 | 0 | 1,1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 2 | 0 | 6,5 |
| Праграма Tacis па транс-межавым супрацоўніцтве | | | | | | 1,34 | 2,8 | 4,7 | 2,31 | 8,15 | 0 | 11,2 | N/A | 6 | 36,5 |
| Праграма малых праектаў па трансмежавым супрацоўніцтве | | | | | | | 0,6 | 0,2 | 0,4 | 0 | 0,9 | 0,2 | 0,44 | 0 | 2,74 |
| Рэгіянальная праграма Tacis | 5,4 | 4,6 | 5,1 | 2,6 | 3,3 | 6,5 | 6,3 | 4,6 | 1,7 | 2 | 3,9 | 2,2 | 7,4 | N/A | 55,6 |
| ECHO | 0 | 0 | 0 | 0,56 | 2,73 | 1,73 | 0,95 | 0,34 | 1,99 | 0,69 | 0,2 | 0 | 0 | 0 | 9,19 |
| INTAS | 0 | 0,02 | 0,9 | 0,5 | 0,1 | 0,6 | 1,2 | 0 | 0,4 | 0,8 | 0,5 | 0 | N/A | N/A | 5,02 |
| Макрафінансавая дапамога | 0 | 0 | 0 | | 0 | 30 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 30 |
| Усяго | | | | | | | | | | | | | | | 222,1 |

# 5. Дапамога ЕС

Пасля беларускага рэферэндума 1996 года, у адпаведнасці з рашэннем Савета міністраў ЕС, дапамога з боку ЕС была абмежавана "гуманітарнымі і рэгіянальнымі праектамі, а таксама праектамі, якія непасрэдна падтрымліваюць працэс дэмакратызацыі". У перыяд з 1991 па 2004 год усяго на дапамогу Беларусі было выдзелена 221 млн. еўра.

У перыяд з 1997 года для Беларусі былі прыняты дзве Нацыянальныя праграмы Тасіс: на 2000—2001 гг. і 2002—2003 гг. Бюджэт кожнай з іх склаў 5 млн. еўра, а іх асноўнай мэтай была падтрымка развіцця грамадзянскай супольнасці. Па праграме, ухваленай Беларуссю ў 1999 годзе, у 2003 годзе было дадаткова выдзелена 5 млн. еўра ў мэтах падтрымкі грамадзянскай супольнасці і вырашэння праблем, звязаных з наступствамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.



У той жа час Беларусь атрымала 16 млн. еўра ў 2001—2003 гг. у межах праграм Тасіс па трансмежавым супрацоўніцтве, ядзернай бяспецы і рэгіянальным супрацоўніцтве. Акрамя выдзеленых рэсурсаў Тасіс у 1998—2001 гг. Беларусі была прадастаўлена харчовая дапамога на 3,2 млн. еўра. У межах праграмы ЕСНО было выдзелена 6,7 млн. еўра ў форме гуманітарнай дапамогі для насельніцтва, пацярпелага ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Перашкодай для прадастаўлення тэхнічнай дапамогі Беларусі ў 2002—2003 гадах стала тое, што праекты Тасіс перасталі вызваляцца ад падаткаў. У кастрычніку 2003 года ў Беларусі быў прыняты ўказ аб міжнароднай тэхнічнай дапамозе, які гарантаваў, што дапамога ЕС не будзе абкладацца падаткамі. Згодна з новымі працэдурамі, праекты міжнароднай тэхнічнай дапамогі павінны праходзіць працэс рэгістрацыі і разглядацца міжміністэрскай камісіяй на прадмет вызвалення ад падаткаабкладання. Афіцыйнае зацвярджэнне праекта камісіяй з'яўляецца ўмовай пачатку яго рэалізацыі.

У выпадку, калі Беларусь стане на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў, дапамога з боку Еўрапейскага Саюза павялічыцца шматразова. Для нашай краіны таксама адкрыюцца шырокія перспектывы ўдзелу ў праграмах добрасуседства і, ўрэшце рэшт, сяброўства ў супольнасці дэмакратычных еўрапейскіх нацыяў.

# 6. Ідэя аб'яднанай Еўропы

На працягу стагоддзяў Еўропа была пастаяннай арэнай бясконцых крывавых войнаў. Гэтак, у перыяд паміж 1870 і 1945 гадамі Францыя і Германія ваявалі паміж сабой тройчы, ахвяраваўшы мільёны чалавечых жыццяў. Шэраг еўрапейскіх лідэраў пераканаліся ў тым, што адзіным шляхам усталявання трывалага міру паміж краінамі кантынента можа быць толькі эканамічнае і палітычнае аб'яднанне.

Ідэя аб'яднанай Еўропы доўгія часы была толькі прыгожай марай ва ўяўленні філосафаў і інтэлектуалаў. Уільяму Пэну (1644—1718) належыць заслуга заклiку да ўсеагульнай цярплівасці і стварэння Еўрапейскага парламента. Французскі абат-дысідэнт Шарль Кастэл дэ Сэн-П'ер (1658—1743) заклікаў стварыць канфедэрацыю еўрапейскіх дзяржаў дзеля забеспячэння ўстойлівага міру. У 1751 г. Вальтэр апісваў Еўропу як вялікую рэспубліку, што складаецца з розных дзяржаў, але ж з адзіным прынцыпам грамадзкага ладу і рэлігійным падмуркам.

Віктар Гюго маляваў ва ўяўленні мірныя "Злучаныя Штаты Еўропы", прасякнутыя ідэаламі гуманізму. Дзве сусветныя вайны, што пракаціліся па кантыненце ў першай палове XX стагоддзя, не пакінулі каменя на камені ад гэтай мары.

Аднак пасля другой сусветнай вайны з'явілася новая надзея. У перыяд з 1945 да 1950 года група еўрапейскіх лідэраў, якая ўключала Конрада Адэнаўэра, Уінстана Чэрчыля, Алкіда дэ Гасперы і Рабера Шумана, узялася пераканаць свае народы пабудаваць новую адзіную Еўропу.

Рабер Шуман (міністр замежных спраў Францыі) падхапіў ідэю, першапачаткова вылучаную Жанам Манэ, і 9 мая 1950 года прапанаваў стварыць Еўрапейскае аб'яднанне вугалю і сталі (ЕАВС). Гэта павінна было перашкодзіць войнам у будучым паміж краінамі-ўдзельніцамі аб'яднання. Глыбока сімвалічна выглядала тое, што сыравіна вайны ператваралася ў інструмент паразумення і міру.

**"Надыдзе дзень, калі ўсе нацыі кантынента, захаваўшы свае адметныя рысы і выдатную непаўторнасць, сальюцца ў саюз больш высокага кшталту і створаць еўрапейскае братэрства. Надыдзе дзень, калі не застанецца іншых палёў змагання, апроч палёў змагання думкі — адкрытых рынкаў абмену ідэямі. Надыдзе дзень, калі кулі і бомбы будуць замененыя галасаваннем".**

**Віктар Гюго. 1849 г.**



Рабер Шуман



Жан Манэ

Гэты крок меў вялікі поспех. Ён паклаў пачатак больш чым паўвекавому мірнаму супрацоўніцтву паміж краінамі — членамі Еўрапейскіх супольнасцяў.

## 7. Этапы гісторыі

Еўрапейскі Саюз з'яўляецца унікальным інтэграцыйным праектам. У ніводным іншым рэгіёне свету незалежныя дзяржавы яшчэ не аб'ядноўвалі свае суверэнітэты ў такой ступені і ў гэтакіх розных галінах, якія маюць велізарную важнасць для іх грамадзян. ЕС стварыў адзіную валюту і дынамічны агульны рынак, дзе людзі, паслугі, тавары і капітал свабодна перамяшчаюцца. Ён імкнецца зрабіць так, каб у выніку сацыяльнага прагрэсу і справядлівай канкурэнцыі як мага болей людзей здолелі скарыстацца з пераваг адзінага рынку.

Першы крок на шляху еўрапейскай інтэграцыі быў зроблены тады, калі шэсць краін (Бельгія, Федэратыўная Рэспубліка Германія, Францыя, Італія, Люксембург і Нідэрланды) стварылі агульны рынак вугалю і сталі.

Тады ж шэсць дзяржаў-удзельніц прынялі рашэнне стварыць Еўрапейскую эканамічную супольнасць (ЕЭС), заснаваную на агульным рынку з шырокім спектрам тавараў і паслуг. Мытныя пошліны паміж гэтымі шасцю краінамі былі цалкам скасаваны 1 ліпеня 1968 года, і ў 1960-х гадах была ўведзеная агульная палітыка, у прыватнасці, у галіне гандлю і сельскай гаспадаркі.

Гэты крок быў настолькі паспяховы, што Данія, Ірландыя і Вялікабрытанія вырашылі далучыцца да Еўрапейскіх супольнасцяў. Гэта першае пашырэнне з шасці да дзевяці ўдзельнікаў адбылося ў 1973 годзе.

У той самы час Супольнасці ўзялі на сябе чарговыя задачы і пачалі праводзіць новую сацыяльную, рэгіянальную і прыродаахоўную палітыку. Для рэалізацыі рэгіянальнай палітыкі ў 1975 годзе быў заснаваны Еўрапейскі рэгіянальны фонд развіцця.

Увядзенне Еўрапейскай валютнай сістэмы (ЕВС) у 1979 годзе дазволіла стабілізаваць курсы абмену валют і заахвоціла дзяржавы-члены Супольнасці ажыццяўляць жорсткую манетарную палітыку, што дазваляла захоўваць узаемную салідарнасць і дысцыплінаваць свае эканамічныя сістэмы.

У 1981 годзе да Супольнасцяў далучылася Грэцыя, у 1986 годзе — Іспанія і Партугалія.

У той самы час ЕЭС пачала адыгрываць больш прыкметную ролю на міжнароднай арэне. З краінамі Афрыкі, басейна Карыбскага мора і Ціхага акіяна яна падпісала шэраг канвенцый аб дапамозе і гандлі. Такія інструменты дапамагаюць Еўропе, вядучай гандлёвай сіле свету, паспяхова дзейнічаць на міжнароднай арэне. Канчатковая мэта Еўрапейскага Саюза палягае ў ажыццяўленні агульнай знешняй палітыкі і палітыкі ў галіне бяспекі.

"Дамова аб Еўрапейскім Саюзе" была заключаная ў Маастрыхце (Нідэрланды) ў снежні 1991 года. ЕЭС была перайменаваная ў Еўрапейскую супольнасць. Больш за тое, праз дадаванне сфер міжурадавага супрацоўніцтва да той сістэмы Супольнасці, што існавала, дагавор стварыў Еўрапейскі Саюз (ЕС). Акрамя таго, ён паставіў новыя амбітныя мэты перад дзяржавамі-ўдзельніцамі: стварэнне валютнага саюзу да 1999 года, еўрапейскае грамадзянства, новая агульная палітыка, у тым ліку агульная знешняя палітыка і палітыка ў галіне бяспекі, і меры ўнутранай бяспекі.

Пасля далучэння ў 1995 годзе Аўстрыі, Фінляндыі і Швецыі Саюз стаў на шлях да

**Асноўныя дагаворы Еўрапейскага Саюза:**

- **Парыжскі дагавор 1951 года, які заснаваў Еўрапейскае аб'яднанне вугалю і сталі (ЕАВС);**
- **Рымскія дагаворы 1957 года, якія заснавалі Еўрапейскую эканамічную супольнасць (ЕЭС) і Еўрапейскую супольнасць па атамнай энергіі (Еўраатам);**
- **Адзіны еўрапейскі акт (1986 г.);**
- **Дагавор аб Еўрапейскім Саюзе (Маастрыхт, 1992 г.);**
- **Амстэрдамскі дагавор (1997 г.);**
- **Ніцкі дагавор (2001 г.).**

**Крытэрыі сяброўства ў ЕС**

**1. Палітычны крытэрый: краіны-кандыдаткі мусяць валодаць стабільнымі інстытутамі, якія гарантуюць дэмакратыю, уладу закону, правы чалавека, павагу і абарону меншасцяў.**

**2. Эканамічныя крытэрыі: краіны-кандыдаткі павінны мець эфектыўную рынкавую эканоміку, здольную існаваць пры ціску канкурэнцыі і рынкавых сіл на абсягу Саюза.**

**3. Здольнасць прымаць на сябе абавязкі сяброўства ў ЕС, у тым ліку адданасць мэтам палітычнага, эканамічнага і валютнага саюзу. Гэта азначае, што краіны-кандыдаткі мусяць прыняць усю сукупнасць прававых нормаў ЕС.**

свайго дасюль самага выдатнага дасягнення — замены нацыянальных валют адзінай еўрапейскай валютай еўра. 1 студзеня 2002 года банкноты і манеты еўра былі выпушчаныя ў абарачэнне ў 12 краінах ЕС ("зона еўра"). Сёння еўра з'яўляецца адной з вядучых валют свету нароўні з доларам ЗША.

Ледзьве толькі Еўрапейскі Саюз пашырыўся да 15 дзяржаў, як у яго дзверы пастукаліся яшчэ 12 краін. У сярэдзіне 1990-х гадоў ён атрымаў заяўкі на далучэнне ад краін былога савецкага блока (Балгарыі, Чэхіі, Венгрыі, Польшчы, Румыніі і Славакіі), трох прыбалтыйскіх краін, што раней уваходзілі ў Савецкі Саюз (Эстоніі, Латвіі і Літвы), адной з рэспублік былой Югаславіі (Славеніі) і дзвюх краін Міжземнамор'я (Кіпра і Мальты).

Перамовы з 10 краінамі-кандыдаткамі былі завершаныя 13 снежня 2002 года ў Капенгагене, і яны далучыліся да ЕС у траўні 2004 года. Пашыраны ЕС у складзе 25 краін зноў папоўніцца ў 2007 годзе з далучэннем Балгарыі і Румыніі.

У чэрвені 2004 года на саміце ў Бруселі быў зацверджаны Дагавор, які ўсталёўвае Канстытуцыю Еўропы. Гэты дакумент — новы крок у бок федэралізацыі Еўрапейскага Саюза і спрашчэння яго інстытуцыйнай сістэмы. Аднак пасля таго, як на рэферэндумах у Францыі і Нідэрландах Канстытуцыя не была прынятая, еўрапейскія лідэры вырашылі працягнуць абмеркаванне Асноўнага закону яшчэ на некалькі гадоў.

Больш чым паўвекавая інтэграцыя зрабіла велізарны ўплыў на гісторыю Еўропы і менталітэт еўрапейцаў. Урады дзяржаў ЕС, незалежна ад палі-

тычнай афарбоўкі, разумеюць, што эпоха абсалютнага нацыянальнага суверэнітэту мінула і што толькі аб'яднаўшы намаганні ды ідучы шляхам "ад гэтага часу агульнага лёсу" (кажучы словамі Дагавора ЕАВС), іх старажытныя нацыі здолеюць забяспечваць бесперапынны сацыяльна-эканамічны прагрэс і захоўваць уплыў у свеце.

"Мы лучым не дзяржавы, а людзей".

Жан Манэ. 1952 г.

Інтэграцыя спрыяла пераадоленню адвечнай варожасці паміж еўрапейскімі краінамі. Аргументы перавагі і палітыкі з пазіцыі сілы ў вырашэнні міжнародных спрэчак былі замененыя калектыўным метадам супрацоўніцтва.



# 8. Як працуе ЕС

Еўрапейскі Саюз — гэта болей, чым проста канфедэрацыя краін, але гэта і не федэратыўная дзяржава. Па сутнасці, гэта нешта зусім іншае, што не мае прэцэдэнтаў у гісторыі. Яго палітычная сістэма бесперапынна эвалюцыянавала на працягу апошніх 50 гадоў і грунтуецца на сістэме дагавораў.



Згодна з гэтымі дамовамі дзяржавы Саюза дэлегуюць частку свайго нацыянальнага суверэнітэту агульным інстытутам, што рэпрэзентуюць не толькі іх нацыянальныя, але і калектыўныя інтарэсы.

Законы, а таксама палітыка ЕС у цэлым, вынікаюць з рашэнняў, што прымаюцца трыма асноўнымі інстытутамі:

**Саветам Еўрапейскага Саюза** (які прадстаўляе дзяржавы-члены);

**Еўрапейскім парламентам** (які прадстаўляе грамадзян);

**Еўрапейскай камісіяй** (палітычна аўтаномным органам, што абараняе калектыўныя еўрапейскія інтарэсы).

### *Савет Еўрапейскага Саюза*

Савет Еўрапейскага Саюза (Савет міністраў) з'яўляецца галоўнай дырэктыўнай установай ЕС. Кожная краіна ЕС па чарзе старшынствуе ў Савеце на працягу шасці месяцаў. У кожным пасяджэнні Савета бярэ ўдзел па адным міністры ад кожнай дзяржавы-члена. Выбар міністраў для ўдзелу ў пасяджэнні залежыць ад тэмы абмеркавання.

Савет і Еўрапейскі парламент дзеляць між сабой заканадаўчую ўладу і адказнасць за бюджэт. Акрамя таго, Савет заключае міжнародныя пагадненні, пасля таго як Камісія правяла па іх перамовы. Колькасць галасоў, якую можа падаць кожная краіна ЕС, прыблізна прапарцыйная колькасці яе насельніцтва. З 1 лістапада 2004 года галасы краін размяркоўваюцца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Германія, Францыя, Італія і Вялікабрытанія | 29 |
| Іспанія і Польшча | 27 |
| Нідэрланды | 13 |
| Бельгія, Чэшская Рэспубліка, Грэцыя, Венгрыя і Партугалія | 12 |
| Аўстрыя і Швецыя | 10 |
| Данія, Ірландыя, Літва, Славакія і Фінляндыя | 7 |
| Кіпр, Эстонія, Латвія, Люксембург і Славенія | 4 |
| Мальта | 3 |
| Усяго | 321 |

### *Еўрапейскі парламент*

Еўрапейскі парламент з'яўляецца выбарным органам, які рэпрэзентуе грамадзян ЕС і бярэ ўдзел у заканадаўчым працэсе. З 1979 года члены Еўрапейскага парламента абіраюцца непасрэдна ўсеагульным галасаваннем кожныя пяць гадоў.

Парламент і Савет дзеляць між сабой заканадаўчую ўладу, выкарыстоўваючы тры адмысловыя працэдуры ("працэдура ўзаемадзеяння", "пагаджальная працэдура" і "працэдура супольных рашэнняў").

Парламент і Савет таксама маюць роўную адказнасць за прыняцце бюджэту ЕС.



Хасэп Барэль



Жазэ Мануэль Барозу

Старшынёй Еўрапейскага парламента зараз з'яўляецца спадар Хасэп Барэль.

### *Еўрапейская Камісія*

Камісія з'яўляецца адным з асноўных інстытутаў ЕС. Да 1 траўня 2004 года яна складалася з 20 членаў (па два ад Францыі, Германіі, Італіі, Іспаніі і Вялікабрытаніі і па адным ад іншых краін), што прызначаюцца на пяць гадоў.

З 1 траўня 2004 года, калі новыя дзяржавы далучыліся да ЕС, кожную краіну прадстаўляе адзін член Камісіі.

Камісія валодае поўнай палітычнай незалежнасцю. Яе задача ў тым, каб абараняць інтарэсы ЕС увогуле, таму яна не мае права атрымліваць інструкцыі ад урадаў якіх-небудзь дзяржаў. Камісія таксама з'яўляецца адзіным інстытутам, упаўнаважаным уносіць прапановы датычна прыняцця новых заканадаўчых актаў ЕС. У якасці выканаўчага органа ЕС Камісія адказвае за пытанні забеспячэння агульнай палітыкі ЕС у такіх галінах, як навукова-даследчая дзейнасць, дапамога ў развіцці, рэгіянальная палітыка і г.д. Акрамя таго, яна кантралюе бюджэт у гэтых галінах.

У 2004 годзе старшынёй Камісіі быў абраны Жазэ Мануэль Барозу.

### *Еўрапейскі савет*

Еўрапейскі савет з'яўляецца найвышэйшым палітычным органам ЕС. У яго ўваходзяць прэзідэнты і прэм'ер-міністры ўсіх краін ЕС, а таксама старшыня Еўрапейскай камісіі. Акрамя таго, на кожным пасяджэнні Еўрапейскага савета выступае старшыня Еўрапейскага парламента.

Гісторыя Еўрапейскага савета бярэ пачатак у 1974 годзе, калі палітычныя лідэры ЕС (кіраўнікі дзяржаў або ўрадаў) пачалі склікаць рэгулярныя нарады. Гэта практыка была замацаваная ў якасці афіцыйнай Адзіным еўрапейскім актам (1987 год). Цяпер Еўрапейскі савет збіраецца звычайна чатыры разы на год. Яго старшынёй з'яўляецца прэзідэнт або прэм'ер-міністр краіны, якая ў гэты час старшынствуе ў Савеце Еўрапейскага Саюза.



Згодна з Маастрыхцкім дагаворам Еўрапейскі савет афіцыйна атрымаў права вызначаць стратэгічныя накірункі развіцця ЕС і прымаць найважнейшыя палітычныя рашэнні.

### *Суд Еўрапейскіх супольнасцяў*

Задача Суда Еўрапейскіх супольнасцяў палягае ў тым, каб забяспечыць выкананне заканадаўства ЕС, а таксама правільнае тлумачэнне і прымяненне пагадненняў.

Ён мае права абвінаваціць любую дзяржаву ЕС ў невыкананні дагаворных абавязкаў.

Акрамя гэтых асноўных органаў Еўрапейскага Саюза маюцца яшчэ некалькі дадатковых: Палата аўдытараў (правярае законнасць і рэгулярнасць паступлення і выдаткавання сродкаў ЕС), Еўрапейскі эканамічны і сацыяльны камітэт (прадстаўляе інтарэсы грамадзянскай супольнасці) і Камітэт рэгіёнаў (прадстаўляе інтарэсы рэгіёнаў ЕС).

**"Асноўныя прынцыпы свабоды і дэмакратыі, рынкавай эканомікі і салідарнасці фарміруюць полюс прыцягнення і служаць станоўчым узорам для многіх людзей у свеце. ЕС — бастыён стабільнасці, як у сваім бліжэйшым атачэнні, гэтак і па-за яго межамі".**

**(Старшыня Еўрапейскай Камісіі Жазэ Мануэль Барозу)**

# 9. Адзіны рынак

Пра стварэнне агульнага рынку было абвешчана 1 студзеня 1993 года, але нават тады праект не быў цалкам завершаны. Што ж стрымлівала працэс потым? Рэч у тым, што, па-першае, узгадніць мытныя тарыфы значна прасцей за сістэму падаткаабкладання. Па-другое, правілы, што рэгламентуюць прафесійную дзейнасць, маюць адметнасць у розных краінах. Па-трэцяе, на пачатку 1980-х гадоў з-за схаванага пратэкцыянізму і лішку новых тэхнічных стандартаў еўрапейскія нацыянальныя рынкі яшчэ болей аддаліліся адзін ад аднаго.

У лютым 1986 года краіны ЕС падпісалі Адзіны еўрапейскі акт, які вызначыў спіс з прыкладна 270 мерапрыемстваў, неабходных дзеля стварэння адзінага рынку да 1993 года, і тэрміны іх выканання. Наступны прагрэс быў хуткі. Кампаніі, прафесійныя супольнасці і прафсаюзы тэрмінова зрабілі захады ў мэтах прыстасавання сваёй стратэгіі да новых правілаў гульні.




Выгады для штодзённага жыцця не прымусілі сябе доўга чакаць, што адбілася ў з'яўленні шырокага спектра тавараў і паслуг і магчымасці вольнага перамяшчэння па Еўропе як дзеля працы, так і дзеля адпачынку.

Каб тавары, паслугі, людзі і фінансы маглі вольна рухацца ў межах аднаго рынку, неабходныя правілы, што забяспечваюць справядлівую канкурэнцыю. Гэтыя правілы ўстаноўленыя ў Дагаворы пра ЕС.

**"Забяспечыць у маштабах усёй Супольнасці гарманічнае развіццё эканамічнай дзейнасці, беспярапыннае і збалансаванае пашырэнне, павышэнне стабільнасці, паскораны рост узроўню жыцця і зближэнне дзяржаў, што ў яе ўваходзяць".**

**(Мэта еўрапейскай інтэграцыі згодна 2 Артыкулу Рымскага дагавора 1957 г.)**

## 10. Эканамічны і валютны саюз. Еўра

Пачынаючы з 1 студзеня 2002 года больш за 300 мільёнаў еўрапейскіх грамадзян выкарыстоўваюць еўра як звычайны элемент штодзённага жыцця. Спатрэбілася толькі 10 гадоў, каб прайсці шлях ад Маастрыхцкага дагавора (люты 1992 года), што замацаваў прынцып адзінай еўрапейскай валюты, да дня, калі банкноты і манеты еўра трапілі ў абарачэнне ў 12 краінах ЕС. Гэта беспрэцэдэнтна кароткі тэрмін, каб ажыццявіць унікальную для сусветнай гісторыі аперацыю.

Еўра замяніла валюты, што былі для многіх краін шматвекавымі сімваламі, інструментамі нацыянальнага суверэнітэту. Пры гэтым новая валюта істотна прасунула Еўропу ў кірунку эканамічнага саюзу. Гэта таксама дало грамадзянам ЕС нашмат болей выразнае асэнсаванне агульнай еўрапейскай прыналежнасці. Маючы ў кішэні еўра, можна вандраваць і рабіць пакупкі ў большасці краін Саюза без патрэбы мяняць грошы.

**"Зона еўра"**

**Аўстрыя, Бельгія, Германія, Грэцыя, Ірландыя, Іспанія, Італія, Люксембург, Нідэрланды, Партугалія, Фінляндыя, Францыя.**

## 11. Фундаментальныя правы

Амстэрдамскі дагавор, прыняты ў 1997 годзе, уводзіць працэдуру прыпынення членства ў ЕС любой краіны, якая парушае асноўныя правы грамадзян ЕС. Дагавор пашырае прынцып забароны дыскрымінацыі. Акрамя нацыянальнай прыналежнасці, ён ахоплівае таксама полавую, расавую, рэлігійную прыналежнасць, узроставыя групы і сексуальную арыентацыю.



Адданасць Еўрапейскага Саюза абароне правоў грамадзян была пацверджаная ў Ніццы ў снежні 2000 года, калі была ўрачыста абвешчаная Хартыя фундаментальных правоў Еўрапейскага Саюза. Гэтая хартыя была падрыхтаваная Канвентам, у які ўваходзілі члены нацыянальных парламентаў і Еўрапейскага

парламента, прадстаўнікі нацыянальных урадаў і адзін член Камісіі. У 54 артыкулах хартыі, падзеленых на шэсць раздзелаў: "Годнасць", "Свабоды", "Роўнасць", "Салідарнасць", "Правы грамадзян" і "Правасуддзе", — выкладаюцца фундаментальныя каштоўнасці Еўрапейскага Саюза, а таксама грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы грамадзяніна ЕС.




## 12. Еўропа — гэта культура і адукацыя

Пачуццё прыналежнасці да Еўропы і да адзінай еўрапейскай супольнасці не можа быць створана штучна. Яно здольна ўзнікнуць толькі праз асэнсаванне агульных культурных каранёў — вось чаму сучаснай Еўропе неабходна сфакусаваць увагу не толькі на эканоміцы, але і на культуры.

Першыя крокі прадугледжаныя праграмамі ЕС у галіне адукацыі і прафесійнага навучання, такімі як "Эразмус" (пашырае свабоду перамяшчэння студэнтаў), "Комет" (тэхнічнае навучанне і падрыхтоўка) і "Лінгва", што заахвочвае вывучэнне замежных моў. Больш за мільён студэнтаў атрымалі магчымасць навучацца за мяжой дзякуючы праграме "Эразмус".

Еўрапейскі Саюз паставіў мэту, якая палягае ў тым, што 10% яго студэнтаў мусяць прайсці гадавы курс вышэйшай адукацыі ў якой-небудзь іншай еўрапейскай краіне. Дзеля гэтага належыць павялічыць інвестыцыі ЕС у адукацыйную палітыку. Далейшыя поспехі ў гэтым кірунку стануць магчымыя дзякуючы праграмам "Сакрат", "Леанарда да Вінчы" і "Моладзь".

Дырэктыва пра тэлебачанне без межаў дае гледачам больш шырокі доступ да тэлевізійных праграм еўрапейскай вытворчасці. Еўрапейскія шырокавяшчальныя карпарацыі павінны ўключаць пэўны працэнт еўрапейскіх праграм у свае сеткі вяшчання.

Праграма "MEDIA+" (2001—2005 гады) забяспечвае падтрымку аўдыёвізуальнай індустрыі. Зараз адчуваецца недахоп тэлевізійных праграм і фільмаў еўрапейскай вытворчасці ў параўнанні з вялікім аб'ёмам амерыканскай прадукцыі. Мэта праграмы "MEDIA+" у тым, каб выправіць гэтую дыспрапорцыю і заахвочваць пракат еўрапейскіх фільмаў і праграм у Еўропе.

# 13. Свабода перамяшчэння

Адзін з найважнейшых крокаў у пытанні спрашчэння фармальнасцяў, звязаных з пераездамі ў Еўрапейскім Саюзе, быў зроблены ў 1985 годзе, калі ўрады Бельгіі, Францыі, Германіі, Люксембургу і Нідэрландаў падпісалі пагадненне ў невялікім гарадку Шэнген на мяжы Люксембургу. Яны дамовіліся скасаваць на агульных межах любы асабісты дагляд, незалежна ад грамадзянства, прывесці меры памежнага кантролю ў адпаведнасць з тымі, што скарыстоўваюцца ў краінах, якія не з'яўляюцца членамі ЕС, і прыняць агульную візавую палітыку.




Такім чынам яны сфарміравалі зону без унутраных межаў, вядомую як Шэнгенская зона. Толькі на яе вонкавых межах грамадзяне ЕС мусяць прад'яўляць пасведчанне асобы або пашпарт.

Шэнгенскае пагадненне 1985 года, канвенцыя 1990 года па яго ажыццяўленні і ўсе законы, вытворныя ад гэтых па-

**Асноўная паказчыкі:**

**Тэрыторыя:**
**3 976 372 кв. км**

**Насельніцтва:**
**457 млн.**

**Валавы прадукт:**
**$12.18 трыльёнаў**

**ВУП на душу:**
**$28 100 (2005 est.)**

**Імпарт: $1.402 трыльёнаў**

**Экспарт: $1.318 трыльёнаў**

гадненняў, зараз сталі неад'емнай часткай дагавораў пра ЕС, і Шэнгенская зона паступова пашырылася. Пачынаючы з сакавіка 2001 года шэнгенскія правілы цалкам выконваюцца Ісландыяй, Нарвегіяй, а таксама 13 краінамі ЕС (Аўстрыяй, Бельгіяй, Даніяй, Фінляндыяй, Францыяй, Германіяй, Грэцыяй, Італіяй, Люксембургам, Нідэрландамі, Партугаліяй, Іспаніяй і Швецыяй).

## 14. Еўрапейскі Саюз на сусветнай арэне

На сённяшні дзень ЕС мае найбольшы ў свеце адзіны рынак, і яго валавы ўнутраны прадукт — найбуйнейшы на планеце. Еўрапейскі Саюз — ключавы ігрок у сусветным гандлі і выдаткоўвае самую буйную ў свеце дапамогу на мэты развіцця. Ён таксама з'яўляецца надзвычай важным партнёрам у сусветных фінансавых адносінах, не ў апошнюю чаргу дзякуючы еўра. У ЕС развіта шчыльная сетка двухбаковых адносінаў, якая ахоплівае ўвесь свет і спрыяе глабальным рэформам. ЕС — буйнейшы спонсар у барацьбе за правы чалавека. Ён валодае значным уплывам у міжнародных арганізацыях, такіх як Сусветная гандлёвая арганізацыя (СГА), спецыялізаваныя ўстановы ААН, а таксама на сусветных самітах у пытаннях навакольнага асяроддзя і развіцця.



Хто-ніхто кажа, што ЕС — эканамічны волат, але палітычны карлік. Вядома, гэта перабольшанне. Аднак праўда тое, што ў дыпламатычным і палітычным плане дзяржавам ЕС належыць прайсці доўгі шлях, перш чым яны здолеюць выказваць адзіную думку ў важных міжнародных пытаннях. Краіны ЕС захоўваюць поўны нацыянальны суверэнітэт над сваімі ўзброенымі сіламі. Іх сістэмы абароны цалкам знаходзяцца ў руках нацыянальных урадаў і знітаваныя толькі тымі сувязямі, што створаныя ў межах такіх блокаў, як NATO.

# 15. Зараджэнне агульнай палітыкі ў галіне абароны

Дзеля павышэння сваёй палітычнай вагі і ў мэтах абароны Саюза, дзяржавы ЕС імкнуцца пабудаваць еўрапейскую палітыку ў галіне бяспекі і абароны. У снежні 1999 года пасяджэнне Еўрапейскага савета ў Хельсінкі паставіла перад ЕС канкрэтную задачу: да 2003 года забяспечыць магчымасць разгортваць за 60 дзён баявыя сілы колькасцю да 60 000 вайскоўцаў, пры падтрымцы з мора і паветра, і падтрымліваць іх у баяздольнасці як найменш на працягу года. У 2004 годзе была таксама прынятая ініцыятыва стварэння мабільных "баявых груп", здольных выконваць шырокі спектр баявых і выратавальных задач.

Гэтыя новыя ўзброеныя фарміраванні ЕС атрымалі "баявое хрышчэнне" падчас правядзення вайсковых міратворчых місіяў у Македоніі, Босніі і Герцагавіне і ў Конга. Еўрапейскі Саюз заключыў таксама шэраг пагадненняў з NATO, якія дазваляюць еўрапейскім сілам скарыстоўваць частку матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння NATO, напрыклад, яго разведку, службы сувязі, кіравання і транспарту.





**Хаўер Салана, Высокі прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі**

## КАРЫСНЫЯ СПАСЫЛКІ:

- Генеральны дырэктарат Еўрапейскай Камісіі па знешніх сувязях
  http://ec.europa.eu/external_relations/
- Еўрапейская палітыка добрасуседства:
  http://ec.europa.eu/world/enp/index_en.htm
- Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ва Украіне, Малдове і Беларусі:
  http://www.delukr.ec.europa.eu/
- Статыстыка па гандлю:
  http://ec.europa.eu/trade/issues/bilateral/data.htm
- Tacic:
  http://ec.europa.eu/external_relations/ceeca/tacis/index.htm
- Дэлегацыя Еўрапейскага парламента па адносінах з Беларуссю:
  http://www.europarl.europa.eu/intcoop/euro/id/d_by/default_en.htm
- Пасяджэнні і рашэнні Пастаяннага савета АБСЕ:
  http://www.osce.org/docs/english/pce2005.htm

### ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕЎРАПЕЙСКАЙ КАМІСІІ ВА УКРАІНЕ І БЕЛАРУСІ

вул. Круглоуніверситетська, 10
01024 Київ, Україна

Тел.: +380 (44) 253-30-20
Факс: +380 (44) 230-23-90

E-mail: delegation-ukraine@ec.europa.eu
Web: http://www.delukr.cec.eu.int

http://www.delblr.ec.europa.eu (Аддзяленне Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі — Tacic-офіс).

Выкарыстаны фотаздымкі: photo.bymedia.net
ec.europa.eu

Wydawnictwo PRYMAT
Białystok, ul. Zwyciestwa 26C/7.
Druk: Offset-Print, Białystok
ul. Bronięwskiego, 14.
Tel. 869 14 87, e-mail: prymat@stnet.pl